Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 170.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 4 лістапада 1998 г. № 118 (510) Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## МЗС пад кантролем

*Распараджэннем прэзідэнта Лукашэнкі 28 кастрычніка была створаная камісія па праверцы дзейнасці міністэрства замежных справаў*

У склад камісіі ўвайшлі аж 27 чыноўнікаў рознага рангу, у тым ліку і такі буйны спецыяліст у галіне замежных справаў, як начальнік канцыляры прэзідэнта. Нічога дзіўнага ў стварэнні такой камісіі няма — усе мы ведаем зампалітаўскую звычку нашага АРЛа на кожнага мецъ сваю папачку, час ад часу выцягваючы яе са стала. Не выключэнне і шэф МЗС Іван Антановіч.

Цікавы, аднак, адзін з абзацаў распараджэння: намесніку І.Ціцянкова (Л.Харужыку) загадана стварыць з ліку членаў камісіі групу па праверцы фінансава-гаспадарчай дзейнасці МЗС і выкарыстання маёмасці РБ, якая знаходзіцца за мяжой. Так што цяпер Іван Іванавіч зможа пацвердзіць мянушку, дадзеную яму ў народзе, — Іванушка Інтэрнэшнл. У межах Беларусі ім, відаць, ужо цесна. Ну, з'ездзіш на Браслаўскія азёры ці ў Прыпяцкі запаведнік, або ў Расію злётаеш. І ўсё. А тут — увесь свет, ад Токіо да Нью-Йорка. Забяры толькі пад сваю апеку будынкі нашых пасольстваў — і можаш гойсаць па ўсім замежжы. Праўда, такія раз'езды абыдуцца даражэй, чым каштуе ўся беларуская маёмасць за мяжою.

Язэп КУТОЎ

## Сусветны банк паставіў умовы

**Учора скончыўся трохдзённы візіт у Мінск віцэ-прэзідэнта Сусветнага банка Ёханеса Ліна.**

Ён сустракаўся з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам, старшынёй Нацбанка Пятром Пракаповічам і іншымі афіцыйнымі асобамі, а таксама наведаў дзяржаўнае прадпрыемства па вырабе радыёэлектронікі «Інтэграл» і прыватную фірму «Трайпл», якая займаецца вытворчасцю газаванай вады і ліманадаў.

Па словах сп.Ліна, Сусветны банк працягне супрацоўніцтва з Беларуссю, аднак новых крэдытаў ад СБ чакаць не варта, пакуль беларускі ўрад не будзе прыслухоўвацца да рэкамендацыяў банка. Асноўныя патрабаванні СБ — лібералізацыя валютнага рынку, магчымасць свабодна прадаваць ці набываць валюту як прадпрыемствамі, так і грамадзянамі, лібералізацыя цэнаў, а таксама абмежаванне крэдытнай эмісіі. Як паведаміў Ёханес Лін, Сусветны банк пакуль што гатовы аказваць кансультацыйную дапамогу Беларусі, займацца эканамічным аналізам і падвышаць эканамічную адукацыю насельніцтва. На гэтыя мэты СБ будзе выдаткоўваць 2—2,5 мільёны долараў у год.

Віцэ-прэзідэнт Сусветнага банка параіў беларускім прадпрыемствам арыентавацца не на расійскі рынак (бо іх ягоныя магчымасці сёння даволі абмежаваныя), а на сусветныя рынкі. Тым не меней, спадар Лін не змог адказаць, прадукцыя якіх беларускіх прадпрыемстваў можа знайсці сваё месца на сусветных рынках. На ягоную думку, гэта вызначаць самі прыватныя прадпрымальнікі, калі ўрад створыць больш спрыяльныя ўмовы для выхаду беларускіх прадпрыемстваў на гэтыя рынкі.

Сусветны банк быў створаны ў 1944 годзе з мэтай садзейнічаць эканамічнаму росту і скарачэнню беднасці ў краінах, што сталі на шлях развіцця. СБ супрацоўнічае з Беларуссю з 1992 года. Першы сумесны праект з урадам Беларусі быў скіраваны на абарону навакольнага асяроддзя і паляпшэнне практыкі лясной гаспадаркі ў запаведніку «Белавежская пушча».

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

## Візы ў Германію пакуль не даюць

**Як паведаміла пасольства Германіі ў Мінску, візавы аддзел нямецкай амбасады на працягу некалькіх дзён не будзе працаваць — консульства перабіраецца ў іншы будынак.**

Прадстаўнікі амбасады мяркуюць, што ўжо 11 лістапада візавы аддзел пачне сваю працу на новым месцы — на вуліцы Будзённага, 10 (ст. метро «Трактарны завод»).

Міхась КАРПОВІЧ

*Рэдакцыю газеты НАВІНЫ абчысцілі*

## Цікавілі камп'ютэры ці інфармацыя?

**Шаноўныя** чытачы! Рэдакцыя прыносіць вам прабачэнне, што ў аўторак вы не атрымалі НАВІНЫ. На жаль, выпусціць газету было немагчыма, нам перашкодзіла надзвычайнае здарэнне — офіс рэдакцыі быў абрабаваны. Зладзеі скралі ўсю камп'ютэрную тэхніку, а заадно прыхапілі і факс.

Адбылося гэта ў ноч з суботы на нядзелю. У памяшканне нашай рэдакцыі, якая размяшчаецца цяпер у звычайнай кватэры на першым паверсе жылога дома, злачынцы залезлі праз акно, акуратна выразаўшы шкло. Гэткім жа чынам яны і пакінулі офіс. Ніякія іншыя каштоўныя рэчы, акрамя камп'ютэрнай тэхнікі, іх не зацікавілі. Прычым, скралі толькі начынне камп'ютэраў, не кранухшы маніторы (таксама дарагія).

У выніку гэтай акцыі газеце былі нанесеныя не толькі матэрыяльныя страты (прыкладна на 3 тысячы долараў), у нас скралі ўсю інфармацыю, што знаходзілася ў памяці камп'ютэраў. Гэта для рэдакцыі больш значная рэч, паколькі камп'ютэры ў рэшце рэшт мы зможам набыць, а вось аднавіць усе інфармацыйныя рэсурсы будзе вельмі няпроста. Што ж цікавіла злачынцаў: дарагая камп'ютэрная тэхніка ці інфармацыя, якая знаходзілася там? Гэтае пытанне застаецца для нас неясным.

Зладзеі былі вельмі адважныя і дасведчаныя. Рэч у тым, што ў памяшканні рэдакцыі кожную ноч быў дзяжурны. Праўда, здаралася так, што раз на два-тры тыдні ніхто не начаваў у рэдакцыі. Менавіта такой (без дзяжурнага) была ноч на 1 лістапада. Зладзеі адсачылі гэта і наважыліся залезці.

На месцы злачынства ў нядзелю працавала выкліканая намі міліцэйская брыгада. Узбуджана крымінальная справа, следства вядуць супрацоўнікі Партызанскага РАУС г.Мінска. Аднак рэдакцыя лічыць, што справа павінна быць перададзеная ў Пракуратуру Беларусі, паколькі мы не выключаем, што злачынства магло быць учыненае якой-небудзь са спецслужбаў РБ з мэтаю аваладаць нашай базай дадзеных, якая назапашвалася восем гадоў.

Рэдакцыя

## Шэсце ў Курапаты

*Удзельнікаў было няшмат*

**1 лістапада беларуская апазіцыя правяла ў Мінску традыцыйныя шэсце і мітынг, прымеркаваныя да дня памяці «Дзяды».**




У калоне, якая распачала свой шлях з плошчы Я.Коласа, напачатку было крыху больш тысячы чалавек, але на дарозе далучаліся новыя ўдзельнікі і на падыходзе да Курапатаў было 2.500—3.000 чалавек.

У Курапатах адбыўся жалобны мітынг, які адкрыў і вёў намеснік старшыні БНФ Юрась Беленькі. Выступалі Генадзь Карпенка, Юрый Захаранка, Радзім Гарэцкі, Юрый Хадыка і іншыя вядомыя людзі.

*«Мы не павінны маўчаць, калі бачым, што ў Беларусі і Расіі ажываюцца чырвона-карычневыя. Наша задача — не дапусціць іх да ўлады, не апынуцца ў новым ГУЛАГу»*, — сказаў акадэмік Гарэцкі.

Намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка нагадаў гісторыю правядзення «Дзядоў» на Беларусі. Першая масавая акцыя ў гэты дзень адбылася дзесяць гадоў таму ў Мінску і была жорстка падаўленая ўладамі. Як бы ні было цяжка ў наступныя гады, сказаў Хадыка, беларускі народ павінен рухацца па дарозе дэмакратыі і свабоды.

*БелаПАН*



***На здымках:* удзельнікі шэсця ідуць па праспекце Скарыны.**

## Прадуктовы караван

Расія атрымае з Беларусі да канца 1998 г. прадуктаў харчавання на суму 5,7 млн. долараў — у лік пагашэння часткі запазычанасці за расійскі газ, паведаміла міністэрства сельскай гаспадаркі РБ. Доўг Беларусі расійскаму «Газпрому» складае каля 250 млн. долараў і да канца года можа ўзрасці больш чым удвая.

*А.Лукашэнка:*

## Пра зарплату і цэны

**Выступаючы перад жыхарамі Чэрыкаўскага раёна, прэзідэнт Лукашэнка паабяцаў на 20—25 працэнтаў павысіць зарплату бюджэтнікам.**

Акрамя таго, прэзідэнт заявіў, што да новага года сітуацыя з цэнамі стабілізуецца.

Прэзідэнт закрануў і пытанне аб кампенсацыі ўкладаў насельніцтва: *«Мы спачатку выплацім ўдзельнікам вайны і інвалідам,* — сказаў А.Лукашэнка. — *75-гадовым грамадзянам мы павінны выплачваць у гэтым годзе. А потым будзем выплачваць усё ніжэй і ніжэй: 65, 60 гадоў і да 40 — такім, як я. У мяне таксама ў свой час прапалі грошы, але да мяне чарга яшчэ не дайшла».*

БелаПАН

## Маладыя бягуць па «кальцавой»

**Малады Фронт вырашыў адзначыць дзень бальшавіцкага перавароту (7 лістапада) прабегам па Мінскай кальцавой аўтадарозе.**

Прабег будзе прысвечаны памяці ахвяраў усіх таталітарных рэжымаў. Маладафронтаўцы будуць бегчы групамі па 3—4 чалавекі і мяняцца кожныя 10—12 кіламетраў. Агульная працягласць маршруту прабегу складзе 67 кіламетраў.

Язэп СІНІЦКІ

## Прыбыла місія МВФ

**У Мінск прыбыла місія Міжнароднага валютнага фонду.**

Падчас свайго візіту, які працягнецца да 13 лістапада, прадстаўнікі МВФ збіраюцца высветліць, ці маюцца падставы для прадастаўлення Беларусі спецыяльнай пазыкі — так званага «механізму кампенсацыйнага і надзвычайнага фінансавання». Гэты механізм прадугледжвае аказанне дапамогі дзяржавам-членам МВФ, якія маюць часовае падзенне даходаў ад экспарту, а таксама праблемы з ураджаем па прычынах, якія ад іх не залежаць. У выпадку з Беларуссю гаворка ідзе аб зменшэнні аб'ёму экспарту ў выніку крызісу ў Расіі і аб праблемах з ураджаем, выкліканых неспрыяльным надвор'ем.

Прыезду місіі папярэднічаў зварот беларускага ўрада да кіраўніцтва МВФ з просьбай аб прадастаўленні спецыяльнай пазыкі.

*БелаПАН*

## Начальства святкуе 7 лістапада

**Беларускія ўлады рыхтуюцца адсвяткаваць 81-ю гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэты дзень, згодна з прэзідэнцкім указам, з'яўляецца нерабочым.**

У пятніцу, 6 лістапада, нашчадкі кастрычніцкага перавароту збяруцца на ўрачысты сход у мінскім палацы чыгуначнікаў. На сцэну ўжо паставілі бюст правадыра. Уваход у залу будзе па спецыяльных запрашальніках. З дакладам на сходзе выступіць намеснік старшыні «палатачнай» камісіі па правах чалавека Ігар Катляроў. Пасля даклада пачнецца вялікі канцэрт.

Наступным днём улады разам з камуністамі ўскладуць кветкі да помніка Леніну, а потым «чырвоная» калона з адпаведнымі сцягамі і плакатамі пройдзе па праезджай частцы праспекта да плошчы Перамогі. Як сказаў нам старшыня аргкамітэта акцыі Віктар Чыкін, ніякіх новых лозунгаў не рыхтуецца.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Беларуска-італьянская аперацыя

**На гэтым тыдні ў Гомельскі абласны кардыялагічны дыспансер прыбудуць чацвёра ўрачоў з Міжнароднай школы кардыяхірургіі (Італія).**

Гэта чарговы этап супрацоўніцтва гомельскіх і італьянскіх кардыёлагаў, якое працягваецца ўжо некалькі гадоў. Раней Міжнародная школа кардыяхірургіі, якая выконвае розныя аперацыі на сэрцы, прадаставіла магчымасць тром урачам дыспансера прайсці ў клініках Італіі гадавую стажыроўку. А цяпер італьянцы маюць намер правесці ў Гомелі пяць складаных аперацыяў на сэрцы, гомельскія ўрачы будуць выступаць у якасці асістэнтаў.

*БелаПАН*

## Свабодны прафсаюз заклікае пратэставаць

*Сёння і заўтра Свабодны прафсаюз Беларусі (СПБ) будзе праводзіць у Мінску акцыі пратэсту*

Прафсаюзнікі патрабуюць ад урада забяспечыць працоўным штомесячны заробак не ніжэй узроўню ў 100 долараў і даць магчымасць прадстаўнікам рабочых напрамую выступаць на тэлебачанні і радыё. Для прапаганды гэтых патрабаванняў сёння СПБ будзе праводзіць пікеты побач з буйнейшымі прадпрыемствамі горада. Заўтра патрабаванні плануецца ўручыць прэзідэнту краіны А.Лукашэнку і атрымаць ад яго тлумачэнні, чаму жыццё становіцца ўсё горш. Мяркуецца зрабіць гэта побач з трактарным заводам у 16 гадзінаў. На гэты час запрошаны да МТЗ і прэзідэнт краіны.

Свабодны прафсаюз Беларусі ўжо не ў першы раз спрабуе «падняць» рабочых на масавую акцыю пратэсту, але да гэтага часу мерапрыемствы СПБ не вызначаліся вялікай колькасцю ўдзельнікаў. Не ў малой ступені гэтаму садзейнічала разрозненасць прафсаюзных арганізацыяў. Вось і цяпер «дзяржаўныя» прафсаюзы на чале з У.Ганчарыкам не падтрымалі заклік Свабоднага прафсаюза выйсці на агульны мітынг пратэсту.

Каб паўплываць на кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў, СПБ плануе сёння правесці таксама пікетаванне штаб-кватэры ФПБ, дзе збяруцца лідэры «дзяржаўных» прафсаюзаў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Грошы на дарозе не валяюцца

**З 1 лістапада знакамітая «алімпійская» дарога ад Брэста да расійскай мяжы стала платнай не толькі для замежных, але і для беларускіх аўтаперавозчыкаў.**

Як нам паведамілі ў аб'яднанні «Белаўтастрада», за праезд трэба заплаціць ад 10 да 50 долараў (у залежнасці ад магутнасці грузавога аўтамабіля). Плата бярэцца пры ўездзе — на мяжы з Польшчай. У вадзіцеляў узнікаюць справядлівыя прэтэнзіі, бо яны праязджаюць розныя ўчасткі дарогі, а плацяць роўныя грошы.

Для беларускіх уладальнікаў легкавых аўтамабіляў праезд па «алімпійцы» застаецца пакуль бясплатным, а вось замежныя грамадзяне, як і раней, плацяць па 6 долараў за праезд па аўтастрадзе.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Ці магчымыя ў Беларусі свабодныя выбары?

На мінулым тыдні ў Мінску знаходзілася выканаўчы дырэктар Міжнароднай лігі правоў чалавека Кэтрын Фіцпатрык з Нью-Йорка. Яна прыязджала ў Беларусь па запрашэнні Хартыі-97, каб азнаёміцца са станам грамадзянскіх і палітычных свабодаў у нашай краіне. Пасля заканчэння візіту спадарыня Фіцпатрык згадзілася адказаць на пытанні карэспандэнта газеты НАВІНЫ.

**— Якая мэта вашага візіту ў Беларусь?**

— Наша арганізацыя існуе ўжо 60 гадоў і займаецца краінамі, дзе пастаянна парушаюцца правы чалавека. Беларусь з'яўляецца такой дзяржавай, і гэта вельмі небяспечна, паколькі няма гарантыяў, што беларускі прыклад не пераймуць у іншых краінах СНД, напрыклад, у Расіі, дзе да ўлады рвуцца палітыкі з імперскімі поглядамі.

Калі я заняла пасаду, выканаўчага дырэктара Лігі, то вырашыла больш цесна заняцца вашай краінай. Наша арганізацыя надае шмат увагі праблеме правоў чалавека ў Беларусі. Сабранай намі інфармацыяй карыстаюцца ў ААН, Дзярждэпартаменце ЗША, Еўрасаюзе, АБСЕ і іншых міжнародных структурах. Я ўжо адзін раз была ў Беларусі ў 1990 г., і мне вельмі хацелася паглядзець, што тут змянілася за восем гадоў.

**— І якія ж змены вы заўважылі? Сітуацыя палепшылася ці пагоршылася?**

— Мне цяжка адказаць адназначна, бо я не бачыла, як вы жылі ў 1992-м ці 93-м годзе, але здаецца, што змянілася няшмат. Такое ўражанне, што ў Беларусі спыніўся час і засталіся амаль некранутымі савецкія парадкі. Дзіўна, але ў вас святкуюць 80-гадовы юбілей камсамола.

З другога боку, у Беларусі стала больш грамадскіх арганізацыяў, незалежных газет, людзі больш карыстаюцца беларускай мовай. Таму мне здаецца, што ў вашай краіны ёсць яшчэ шанс выйсці на дэмакратычны шлях развіцця.

**— І хто, на вашую думку, можа стварыць альтэрнатыву цяперашняму рэжыму?**

— Толькі масавы рух, аб'яднаны адной ідэяй, які здолее даступна растлумачыць людзям, што дэмакратыя лепш дыктатуры. Такі, які ў свой час быў у Польшчы, ГДР і іншых краінах усходняга блока. На жаль, існуючыя цяпер у Беларусі партыі яшчэ вельмі слабыя, а іхнія лідэры часта не могуць дасягнуць згоды паміж сабою па прынцыповых пытаннях, такіх, напрыклад, як удзел у выбарах.

**— А ці могуць нешта змяніць у цяперашняй сітуацыі выбары, нават калі яны і адбудуцца пад міжнародным кантролем?**

— Ведаеце, я сустракалася з прадстаўнікамі місіі АБСЕ ў Мінску, і такое ўражанне, што ў Беларусі гэтая арганізацыя вядзе такую ж складаную гульню, як і ў Азербайджане, Югаславіі, Босніі і іншых гарачых кропках. Вось у Азербайджане адбыліся прэзідэнцкія выбары, і Гейдар Аліеў зноў перамог нібыта з вялікай *перавагай. Але* на яго працавалі ўсе дзяржаўныя СМІ, выканаўчая ўлада, а закон аб выбарах быў недэмакратычны. Бальшыня апазіцыйных партыяў адмовілася ўдзельнічаць у такіх выбарах, а АБСЕ, якое назірала за іх правядзеннем, хоць і прызнала, што было шмат парушэнняў, аднак і надалей супрацоўнічае з рэжымам Аліева.

Падобнае можа адбыцца і ў Беларусі. Пра якія свабодныя выбары тут можна гаварыць, калі за паўгода да іх правядзення вашыя грамадзяне нават не ведаюць, у выбарах якога ўзроўню будуць удзельнічаць. Мне здаецца, што АБСЕ проста зацікаўленае ў стабільнай сітуацыі ў гэтым рэгіёне Еўропы, і таму чыноўнікі гэтай арганізацыі і надалей будуць весці бясплённыя перамовы з вашымі ўладамі і дасылаць у Беларусь розныя назіральныя групы.

На жаль, заходнія краіны не раз рабілі памылку, спадзеючыся, што саноўчым зменам у палітычнай сітуацыі ў Беларусі паспрыяе Масква. Цяпер відавочна, што гэта былі ілюзіі. Найперш, усё залежыць ад вас саміх.

*Гутарыў*
**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*Лісты ў рэдакцыю*

## Чикин проявил инициативу

Прокуратурой города Минска проведена проверка по обращению зам.председателя Минского горисполкома В.Чикина о нарушениях ст.9 Закона Республики Беларусь «О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании», допущенных редакциями газет, опубликовавшими сведения о проведении 1 ноября 1998 года БНФ шествия и митинга, посвященных Дню памяти «Дзяды» до получения разрешения Мингорисполкома на их проведение.

Установлено, что в газете НАВІНЫ № 114 от 23 октября 1998 г. опубликована статья «Фронт рыхтуецца да Дзядоў», в которой содержатся сведения о том, что 1 ноября БНФ планирует провести шествие от пл.Независимости до урочища «Курапаты» и митинг, отметив День памяти «Дзяды», в то время как официальное разрешение дано на проведение шествия от пл.Я.Коласа до урочища «Куропаты».

В соответствии с требованиями ч.2 ст.9 Закона «О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании» до получения разрешения на проведение собрания, митинга, уличного шествия, демонстрации и пикетирования организаторы указанных мероприятий, а также иные лица не вправе объявлять в средствах массовой информации о времени и месте их проведения, изготавливать и распространять с этой целью листовки, плакаты и иные материалы.

В целях недопущения нарушения указанных требований Закона прошу в дальнейшем публиковать информацию о проведении различных массовых общественно-политических мероприятий только после получения разрешений на их проведение.

**Н.КУПРИЯНОВ,**
*прокурор г.Минска, государственный советник юстиции 3 класса*

# Магілёўцы баставалі




*Плакат «Извините, у нас забастовка» быў вывешаны магілёўскімі прадпрымальнікамі на рынку ў час аднадзённага страйку, праведзенага 2 лістапада ў знак пратэсту супраць палітыкі ціску, якую праводзяць гарадскія ўлады ў адносінах да гандляроў на рынку.*

## В Россию – и обратно

Уважаемая редакция! Хочу несколько дополнить опубликованную вами статью Альгерда Неверовского «За ўезд у Расію трэба плаціць».

Три недели тому назад мне довелось съездить в Москву и пройти через процедуру уплаты этого экологического сбора. Так вот, сумма сбора составляет для легковой автомашины не 200, а 220 российских рублей. Перед границей прямо на проезжей части стояли двое в какой-то черной форме и отсортировывали тех, кому надо платить. В стороне от дороги, куда указали заехать, новое здание с окошечками касс. Возле окошек несколько милиционеров. Некоторые водители возмущаются: на каком основании сбор, почему вырос (недавно был 180 рублей). Милиционеры успокаивают: мол, так надо, и все тут.

Меня задело другое. С собой было только 40 российских рублей. Тут же — обменник. Но за 1 доллар дают всего 10 рублей. Спрашиваю в кассе: почему такой низкий курс? В ответ: у меня распоряжение. Милиционер вежливо посоветовал съездить к смоленскому управляющему и выяснить у него, а не здесь. Здесь — плати и не рассуждай. Итак, пришлось за 20 долларов взять 200 рублей. Поэтому экологический сбор обходится отнюдь не в 12 долларов, а почти в два раза больше.

Несколько слов о самой дороге. От границы до Смоленска, а это около 50 километров, сплошные строительно-ремонтные работы. Масса техники, рабочих, неудобные сужения, объезды и т.д. Мне довелось ехать в дневное время. Поэтому хочу предупредить тех, кто собирается проехать ночью, — будьте осторожны, потому что технику на ночь оставляют прямо на дороге. И никаких указателей, никакой разметки.

В самой Москве очень напряженное движение, никто никого не пропустит, отнимают друг у друга каждый сантиметр. После Минска — довольно непривычно. Но разобраться можно, надо только быстрее соображать и живее шевелиться.

**Вячеслав ТРАЦЕВСКИЙ,**
*г.Минск*

# Каб узяць Крэмль, патрэбен час

## *Чаму Лукашэнка абараняе Ельцына?*

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Найвялікшы, бадай, палітычны сюрпрыз мінулага месяца: Аляксандр Лукашэнка публічна заклікаў грамадскасць Расіі не «звяргаць» Барыса Ельцына. Дагэтуль безліч разоў беларускі прэзідэнт дэманстраваў, што гаспадар Крамля зусім не з'яўляецца для яго недатыкальнай асобай. То Лукашэнка называў Ельцына васьмідзесяцігадовым старцам, то заклікаў народы былога Саюза асудзіць магільшчыкаў СССР — трох белавежскіх зуброў (а каму ж невядома, што сярод гэтага трыо вядучую партыю выконваў менавіта Барыс Ельцын.)

**АПОШНІМ** часам Б.Ельцын усё часцей адказваў ударам на ўдар. Не пусціў беларускага «саюзніка» ў вандроўку па «чырвоных» абласцях Расіі, пачаў старанна падлічваць, колькі той вінаваты яму за газ ды нафту, а нядаўна пастаўіў на беларуска-расійскай мяжы міліцыянтаў з паўнамоцтвамі браць з беларусаў экалагічны падатак — як пропуск у братнюю Расію.

Карацей кажучы, прэтэнзіяў у Лукашэнкі да Ельцына павінна было набрацца не менш, чым у Ельцына да свайго беларускага калегі. І вось прыйшоў, здавалася б, вельмі зручны момант паквітацца за атрыманыя ад «старэйшага брата» знявагі ды тумакі: расійскі народ патрабуе адстаўкі Ельцына, расійская эліта касякамі ідзе прысягаць Яўгену Прымакову, думцы вось-вось дамовяцца з вышэйшым чынавенствам аб перапрацоўцы канстытуцыі. Дастаткова будзе ўнесці ў яе палажэнне аб віцэ-прэзідэнце ды распісаць працэдуру адхілення прэзідэнта ад улады па стане здароўя, і ўжо ў гэтым годзе Ельцына як палітыка з рахунку можна спісваць. Пры жаданні беларускі прэзідэнт мог бы прыняць удзел у рэалізацыі гэтага сцэнару. Аднак, Аляксандр Рыгоравіч раптам пачаў абараняць Барыса Мікалаевіча. *«Ды не чапайце вы Ельцына, ён жа нікому не перашкаджае»,* — угаворвае расіянаў братка-беларус.

З чаго б гэта Лукашэнка стаў такі літасцівы да хворага Ельцына?

**НІКОМУ** настолькі не збылата планы хваробы расійскага прэзідэнта, як беларускаму кіраўніку. Ягонае дзіця — саюз Беларусі і Расіі — яшчэ не дараслo да патрэбнай кандыцыі. А без гэтага мара пра Крэмль для Лукашэнкі застанецца ўсяго толькі марай. Нават каб зрабіць канфедэрацыю, не кажучы ўжо пра адзіную дзяржаву, у абедзвюх краінах трэба правесці рэферэндумы. Вядома, што ў нас арганізаваць чарговы плебісцыт не праблема: дэкрэт, галасаванне ў палацы — і не спатрэбіцца нават ініцыятыва знізу. Аднак закруціць рэферэндум у Расіі значна складаней. Акрамя таго, кожны з кандыдатаў на прэзідэнцтва ў Расіі не можа не разумець, што ельцынская спадчына ў выглядзе прыдбанай Беларусі на чале з амбіцыйным Лукашэнкам — гэта не проста дадатковы галаўны боль, а праблема, горшая за Чачню.

**ЗГОДНА** з апошнімі апытаннямі грамадскай думкі ў Расіі, найбольшыя шансы на прэзідэнцтва маюць сёння левыя і ружовыя кандыдаты: лідэр камуністаў Зюганаў, маскоўскі «генерал-губернатар» Лужкоў, краснаярскі губернатар Лебедзь. Аднак аналітыкі схіляюцца да думкі, што ў рашаючы тур выбараў Зюганаў па пэўных прычынах не пройдзе і там сустрэнуцца Лебедзь з Лужковым. Атрымаць падтрымку пратэстнага электарата мае большыя шанцы краснаярскі губернатар, але каб добра раскруціцца, яму патрэбна мацнейшая фінансавая падтрымка. А вялікія грошы можна знайсці толькі ў Маскве, дзе гаспадарыць Юрый Лужкоў. І той не збіраецца саступаць у змаганні за спонсараў. Таму ён і актывізаваўся як прэтэндэнт на шапку Манамаха.

Чаму гэта адбылося менавіта зараз? Верагодна, таму, што, улічваючы здароўе Ельцына, расійскім алігархам трэба неадкладна вызначыцца са сваім кандыдатам у прэзідэнты. Вось Лужкоў і вылузваецца са скуры, каб даказаць, што стаўку трэба рабіць менавіта на яго. Мэр Масквы паўтарае Ельцына гатунку 1996 года. Той здолеў пераканаць банкіраў: маўляў, калі не хочаце прайграць, ваўта пагадзіцца на абранне лепшага з горшых. Чаму не паўтарыць гэты трук Лужкову? Аднак, калі алігархі зробяць выбар і дадуць кандыдату грошы, яны запатрабуюць найхутчэйшай аддачы. І тады Ельцыну будзе прад'яўлены ультыматум: альбо сыходзь сам, альбо...

**МЯРКУЮЧЫ** па той валтузні, што ідзе зараз у Маскве, чакаць ультыматуму засталося нядоўга. Шалі з пераменным поспехам вагаюцца, і любая гучная палітычная падзея, нават заява каго-небудзь з уплывовых палітыкаў, можа канчаткова парушыць раўнавагу. Лукашэнка з усіх сілаў спрабуе гэтыя шалі ўтрымаць. Фактычна заступніцтвам за Ельцына беларускі прэзідэнт падключыў свой галоўны аргумент — аўтарытэт у расійскіх рэгіёнах. Ён дае зразумець прэтэндэнтам на крамлёўскі прастол, што зробіць усё магчымае, каб нашкодзіць таму, хто першы парушыць сённяшні «статус-кво».

Калі меч на ўвазе, што Зюганаў і Лебедзь не асабліва актыўнічаюць у справе звяржэння Ельцына, то атрымліваецца, што Лукашэнка ў першую чаргу пагражае Лужкову. Доказ на карысць гэтай версіі — нядаўні раптоўны візіт у Мінск генерала Нікалаева. Гэты адстаўны галоўны памежнік Расіі, вядомы зараз як асабісты прадстаўнік маскоўскага мэра, прыляцеў у Беларусь літаральна праз два дні пасля таго, як Лукашэнка ў Омску заклікаў расіянаў «не чапаць свайго прэзідэнта». Наўрад ці мэтай візіту Нікалаева было пайнфармаваць беларускіх журналістаў аб стане здароўя Ельцына. Нікалаеў сустракаўся з Лукашэнкам, і, зразумела, гутарка паміж імі не была гутаркай двух былых памежнікаў. Нікалаеў мог прапанаваць Лукашэнку ад імя Лужкова альбо хаўрус, альбо вайну. Аднак кіраўніку Беларусі не даспадобы ні першае, ні другое. Ягоная мэта сёння — зацягнуць час, бо блізкае легітымнае выйсце з расійскага крызісу яго ні ў якім разе не задавальняе.

**І НЕ** перабольшвае Лукашэнка свой цяперашні ўплыў на расійскія справы? Магчыма, перабольшвае, як і ў іншых сферах жыцця. Такая ў яго натура. Але даводзіцца адзначыць, што беларускі прэзідэнт зноў аказаўся ў выгаднай для сябе сітуацыі, у якой любое выйсце для яго выгаднае. Калі сапраўды ельцынскаму прэзідэнцтву хутка канец — заступніцтва Лукашэнкі ў віхры будучых падзеяў забудзецца. Наступнаму расійскаму прэзідэнту, хто б ім ні стаў, усё роўна наканавана сябраваць з утрымальнікам адзінага для Расіі калідора на Захад. А пакуль Ельцын яшчэ пры ўладзе, ягоная ўдзячнасць за падтрымку можна і трэба скарыстацца. Беларусь хоць і «выбіла» выгадныя для сябе ўмовы пакрыцця запазычанасці за газ і нафту мясам ды бульбай замест долараў, аднак, хто, як не прэзідэнт краіны, разумее, што гэтага мяса хутка самім беларусам хапаць не будзе. Зноў прыйдзецца плаціць за паліва сяброўствам, бо іншай валюты ў нас проста няма. Таму трэба сябраваць.

# Брестские наследники Лени Голубкова

## *История о «чулочных» вкладах белорусов в швейцарских банках*

Пока правительство, как рыба об лед, бьется в поисках валюты и инвестиций, отдельные наши сограждане ведут себя крайне несознательно. Вместо того, чтобы подсобить личными сбережениями родному государству, они тайком начинают инвестировать ... экономику Запада.

До поры до времени никто не обращал внимания на странный ажиотаж, наблюдавшийся в некоторых коммерческих банках г.Бреста. А в иные дни тут буквально яблоку негде было упасть. С утра и до вечера толпы клиентов настойчиво осаждали банковские офисы, желая поскорее избавиться от собственной валютной наличности.

Так почему вдруг наших земляков обуяла столь необычная финансовая лихорадка?

### Подвело сребролюбие

Вот выдержка из одного служебного досье: «Банками г. Бреста производится прием от физических лиц наличной иностранной валюты для перевода ее в Швейцарский банк и зачисления на счет иностранного предприятия *«Astran»* в виде членских взносов...

Привлечение от граждан валютных средств шло под предлогом получения ими высокой прибыли и в кратчайшие сроки».

Как установили работники госконтроля, затеянная финансовая игра велась с большим размахом. Перед брестской публикой, мало искушенной в подобных делах, рисовались перспективы — одна заманчивей другой. И главное, что привлекало, — это предлагаемая возможность получения быстрого и бесхлопотного богатства. Требовались сущие пустяки. Отдать фирме энную сумму в валюте, чтобы быть принятым на «работу» в качестве ее менеджера, и сагитировать двух новых готовых раскошелиться «управленцев». После чего должно было последовать полное благоденствие — успевай только «стричь» проценты валютной прибыли.

Для пущей убедительности фирма забросила в Брест видеоролики с записью международных фестивалей своих членов, проводимых в Швейцарии и Польше. Экранные дяди и тети искренне благодарили фирму за то, что она многократно преумножила их взносы и регулярно выплачивает дивиденды! Короче, все как в кино «про Леню Голубкова».

### Момент истины

Но у «МММ» были хотя бы акции. А у *«Astran»* — ничего, кроме обещаний озолотить каждого, кто сегодня «подарит» фирме свои валютные сбережения. Но это внешние различия, а суть одна — финансовая «пирамида». Когда идет ее раскрутка, все выглядит чинно и благородно. Те, кто оказался у ее подножия, действительно начинают получать дивиденды. А это завораживает прочих. Ведь отдал доллар — получил десять! Но чем больше число жаждущих, тем призрачнее шансы. И наконец приходит момент истины: обещанных дивидендов нет и не будет, и, скорее всего, никто не возвратит «членские взносы».

Наступил момент, и в одночасье прозрели многие сотни брестчан, вовлеченных в «игру для дураков», непосредственным организатором которой стало некое общественное объединение — клуб «Титан». Кстати, он был официально зарегистрирован в управлении юстиции облисполкома. В колокола забили, лишь когда очевидный обман людей набрал обороты и раскрылся жалобами. Облуправление юстиции, отправившее «Титан» в житейское плавание, дважды было вынуждено выносить ему официальные предупреждения о незаконной деятельности. Но машина «Титана» на всех парах несла его к своему айсбергу: «титаническая» деятельность была прекращена решением госконтроля, а сам клуб ликвидирован по решению областного суда.

### Банкам тоже выгода

Утешение слабое: за почти полтора года своего существования «Титан» успел принять на борт множество пассажиров. Судя по материалам того же комитета госконтроля, в операциях по переводу валюты за границу участвовало свыше 1.700 граждан. Общая сумма их личных «инвестиций», направленных в иностранные банки, — свыше 2 млн. немецких марок и 132 тыс. *USD*. Вот бы этими деньжищами да разумно распорядиться у себя дома!

Впрочем, с утечкой капитала за пределы республики зримо встает еще одна проблема — о нашей банковской системе. Кому-то, быть может, покажется странным, но, когда люди несли валюту и просили отправить ее за границу, в иных коммерческих банках с удовлетворением потирали руки. Почему? Потому что от каждой такой операции банк имел свою выгоду, получая за услуги определенную долю той самой валюты. Теперь, правда, введены некоторые ограничения в международных расчетах, от физических лиц требуют оправдательные документы. И все же проблема с повестки не снята. Эпидемия массовых валютных переводов за кордон вполне может повториться.

В этом убеждают факты, попадающие в поле зрения правоохранительных органов. Попытки оживить «пирамиды» предпринимаются постоянно. В той или иной форме. И если у вас, граждане, еще кое-что уцелело из СКВ, отложенной на «черный» день, не стоит самим торопить приближение этого самого дня.

**Валерий МОЛОЧНИКОВ**

*«Каждый человек имеет право на такой жизненный уровень, включая пищу, одежду, жилище, медицинский уход и необходимое социальное обслуживание, который необходим для поддержания здоровья и благосостояния его самого и его семьи... Каждый человек имеет право на образование».*

***Всеобщая Декларация прав человека***

# Индекс Беларуси

**Согласно докладу ООН за 1998 год, Беларусь по индексу социального развития занимает 68 место.**

Доклад ООН — объемистая книга, и половину ее составляют таблицы: от количества автоматов Калашникова на душу населения до числа коек в вендиспансерах. Но в основном чтение доклада — занятие не для слабонервных. Особенно в тех местах, где идет речь о странах, занимающих примерно со 110 позиции по последнюю. Оказывается, больше миллиарда человек на Земле живут за абсолютной чертой бедности, то есть натурально голодают, и к тому же без электричества и питьевой воды. 100 миллионов людей «бомжуют». Так что у нас еще не все так плохо, поскольку мы находимся на 68 позиции, а не рядом с Нигером. Впрочем, там зарабатывают больше нашего, вот только живут недолго.

| Страна | Место по социальному развитию | Продолжительность жизни | Грамотность | Доходы на душу населения с учетом реальных цен, в долларах США |
|---|---|---|---|---|
| Канада | 1 | 79,1 | 99,0 | 21.916 |
| Франция | 2 | 78,7 | 99,0 | 21.176 |
| Норвегия | 3 | 77,6 | 99,0 | 22.427 |
| США | 4 | 76,4 | 99,0 | 26.977 |
| Исландия | 5 | 79,2 | 99,0 | 21.064 |
| Финляндия | 6 | 76,4 | 99,0 | 18.547 |
| Нидерланды | 7 | 77,5 | 99,0 | 19.876 |
| Япония | 8 | 79,9 | 99,0 | 21.930 |
| Новая Зеландия | 9 | 76,6 | 99,0 | 17.267 |
| Швеция | 10 | 78,4 | 99,0 | 19.297 |
| Люксембург | 26 | 76,1 | 99,0 | 34.004 |
| Бруней Даруссалам | 35 | 75,1 | 88,2 | 31.165 |
| Венгрия | 47 | 68,9 | 99,0 | 6.793 |
| Беларусь | 68 | 69,3 | 97,9 | 498 |
| Оман | 71 | 70,3 | 59,0 | 9.383 |
| Россия | 72 | 65,5 | 99,0 | 4.531 |
| Эквадор | 73 | 69,5 | 90,1 | 4.602 |
| Буркина-Фасо | 172 | 46,3 | 19,2 | 784 |
| Нигер | 173 | 47,5 | 13,6 | 765 |
| Сьерра-Леоне | 174 | 34,7 | 31,4 | 625 |

*Здарэнні*

## Журналістам не пашанцавала

**Некалькі журналістаў беларускіх афіцыйных і замежных СМІ трапілі ў панядзелак у дарожную аварыю. Журналісты суправаджалі прэзідэнта Лукашэнку ў ягонай паездцы па Магілёўскай вобласці.**

Па словах супрацоўнікаў Дзяржаўтаінспекцыі, непадалёк ад райцэнтра Чэрыкаў два мікрааўтобусы з карэспандэнтамі, якія ехалі следам за прэзідэнцкім картэжам, урэзаліся ў джып з расійскімі дзяржнумарамі, што стаяў на ўскрайку дарогі. Некалькі журналістаў з Беларускага тэлебачання і агенцтва БелТА атрымалі лёгкія пашкоджанні. Чэрыкаўская міліцыя цяпер праводзіць па гэтай справе расследаванне. Паведаміць нам падрабязнасці здарэння супрацоўнікі ДАІ, у інтарэсах следства, адмовіліся.

Чэрыкаўскія міліцыянты лічаць, што вінаватымі ў аварыі, хутчэй за ўсё, будуць прызнаныя вадзіцелі мікрааўтобусаў, якія на мокрай дарозе проста не справіліся з кіраваннем.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Згарэла свінаферма

**У мінулую нядзелю ў калгасе «Рассвет» Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці здарыўся вялікі пажар. Згарэла калгасная свінаферма.**

Як паведаміла нам эканаміст калгаса Галіна Марчук, разам з свінафермай калгас пазбавіўся 104 свінней. Цяпер у калгасе засталіся толькі маленькія парсючкі і свінаматкі — яны ўтрымліваліся ў іншым памяшканні. Будынак свінафермы згарэў ушчэнт.

У «Рассвете» пакуль яшчэ не падлічылі страты, але, па некаторых ацэнках, урон склаў каля 1 мільярда 200 мільёнаў рублёў. Гэта вялікія грошы для калгаса, дзе працуе больш за 200 чалавек. Па словах Галіны Марчук, калгас «Рассвет» спецыялізуецца пераважна на вытворчасці мяса і малака і мае статак з прыкладна трох соцень кароваў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Феерверку не будзе

**Чацвёра грамадзянаў Беларусі спрабавалі незаконна ўвезці на тэрыторыю краіны буйную партыю піратэхнічных сродкаў.**

Кантрабанда была выяўленая памежнікамі Гродзенскага пагранатрада пры аглядзе на пропускным пункце «Бераставіца» двух аўтамабіляў «Мерседэс» з прычэпамі. У спецыяльных тайніках былі схаваныя 69 скрыняў з піратэхнічнымі сродкамі — усяго больш за 61 тысячу штук. Кантрабандны груз перададзены ў мытныя органы для ацэнкі.

*БелаПАН*

## Заразіў – сядзеш за краты

**16 чалавек у Гомельскай вобласці асуджаныя за наўмыснае распаўсюджванне венерычных хваробаў.**

Суды вобласці прыгаварылі «сексуальных злачынцаў» да розных мераў пакарання — ад штрафу да пазбаўлення волі. Гомельскі абласны скурна-венерычны дыспансер падрыхтаваў і перадаў у праваахоўныя органы яшчэ 54 матэрыялы на ўзбуджэнне крымінальных справаў па фактах наўмыснага заражэння венерычнымі хваробамі.

*БелаПАН*

## Майка беларускага хакеіста нумар адзін паедзе ў Канаду

**Хакейная майка пад нумарам адзін, у якой гуляе прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, магчыма, будзе перададзеная ў Музей хакейнай славы канадскага горада Таронта.**

Цырымонія мае адбыцца ў снежні гэтага года падчас правядзення маладзёжнага чэмпіянату свету па хакеі, у якім будзе браць удзел і зборная Беларусі.

Пра гэта паведаміла Беларуская федэрацыя хакея. Аднак ўрачыстая перадача прэзідэнцкай майкі можа прайсці і раней — пры ўмове, што музей вышле А.Лукашэнку персанальнае запрашэнне.

Як вядома, нядаўна Музей хакейнай славы Таронта накіраваў беларускаму прэзідэнту ліст з просьбай падарыць сваю майку для іхняй экспазіцыі, бо Лукашэнка — адзіны ў свеце кіраўнік дзяржавы, які захапляецца гульнёй у хакей.

Дарэчы, 1 снежня гэтага года пасля комплекснай рэканструкцыі адкрыецца крыты каток (дзіцяча-юнацкі цэнтр алімпійскага рэзерву) у мінскім парку імя Горкага. Як паведаміла міністэрства спорту і турызму, у дзень адкрыцця катка плануецца правядзенне хакейнага матча з удзелам прэзідэнта А.Лукашэнкі.

*БелаПАН*



*На здымку: беларуская спартсменка Марыя Бусыгіна стала чэмпіёнкай Еўропы на нядаўна прайшоўшым у Кіеве (Украіна) чэмпіянаце Еўропы па кікбоксінгу. Здымак зроблены падчас выступлення Марыі ў вольнай праграме па таіландскаму боксу.*

## Паслуга для наркаманаў

У Пінску адкрыўся пункт па абмене выкарыстаных шпрыцаў. Ён працуе пры міжраённым наркалагічным дыспансеры.

Кожны дзень з 11 да 12 гадзінаў дня наркаманы бясплатна могуць абмяняць тут выкарыстаныя шпрыцы на новыя, стэрыльныя. Неабходнасць у адкрыцці пункта ўзнікла даўно, аднак з-за недахопу грошай ён пачаў працаваць толькі некалькі дзён таму. Па словах супрацоўніка Брэсцкага абласнога цэнтра прафілактыкі і барацьбы са СНІДам Сцяпана Завады, 95 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных у Брэсцкай вобласці — наркаманы. Па апошніх дадзеных, толькі ў Пінску носьбітамі смяротнай інфекцыі з'яўляюцца 35 чалавек. Усяго ж на Брэстчыне выяўлена 75 ВІЧ-інфіцыраваных.

*БелаПАН*

*Ліст у рэдакцыю*

# Пора протрезветь

В главной «президентской» газете «Советская Белоруссия» недавно было напечатано несколько статей на тему алкоголизации населения. Цитирую: *«В Беларуси ежегодно потребляется 25 литров алкоголя в расчете на каждого жителя, включая стариков и детей. По мнению ученых, если этот показатель превышает 8 литров, то столь неумеренное питие приводит к вырождению нации»*. И еще: *«Если в 1991 году от чересчур высокого содержания алкоголя в крови скончалось чуть больше тысячи человек, то в 1997 — уже 2.250 человек»*. Печальная статистика. Но газета ничего не пишет о том, кто способствует алкоголизации населения, кому это выгодно. Попробуем разобраться сами.

Хочу привести еще несколько цифр. В том же 1991 году килограмм вареной колбасы стоил около 2-х рублей, а бутылка водки — около 4-х. А теперь колбаса стоит в 2 раза дороже водки. Кто у нас сейчас регулирует цены — знают все.

Как известно, производство водки любому государству обходится очень дешево. В цивилизованных странах цены на спиртное умышленно устанавливаются на высоком уровне, чтобы люди меньше пили. А у нас — наоборот. Почему? Да потому, что пьяный народ легче обманывать. У алкоголика одна мысль в голове: где бы выпить? Он не задумывается о своей скотской жизни, о будущем своей страны и детей. Рост цен его не волнует, он не требует повышения зарплаты, не ходит на демонстрации, не участвует в забастовках и т.д. А на выборах будет голосовать за того, кто его обеспечит дешевой выпивкой. Пора бы нашим гражданам протрезветь.

**Л.ВАСИЛЬЕВ,** *г.Гродно*

# Даты і лёсы

*3 лістапада*

**1706.** Землятрус разбурыў італьянскі горад Абруцы. Загінулі 15 тыс. чалавек.

**1882.** У сям'і лесніка нарадзіўся класік беларускай літаратуры Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч). У 12 гадоў хлопчык атрымаў першы ганарар за верш (ад бацькі) — срэбны рубель.

**1898.** У Кобрынскім павеце нарадзіўся вядомы ўкраінскі паэт Дмытро Фальківскый. Разам з 27 дзеячамі культуры быў расстраляны ў Кіеве ў 1934 г.

**1913.** У небе над Мехіка адбыўся першы паветраны бой: пілоты аэрапланаў Ф.Рэйдэр і Д.Лэмб абмяняліся стрэламі з рэвальвераў (у Мексіцы ў той час ішла грамадзянская вайна).

**1928.** Турцыя перайшла з арабскага на раманскі алфавіт.

**1957.** У СССР запусцілі другі спадарожнік з лайкай на борце. Сабака загінуў пасля таго, як на спадарожніку закончыўся запас кіслароду.

**1996.** Памёр Бакаса, людаед, які пасля перавароту 1976 года ў Цэнтральнаафрыканскай рэспубліцы стаў імператарам (да таго быў 11 гадоў прэзідэнтам). У 1979 годзе звергнуты.

*4 лістапада*

**1817.** У Віленскім універсітэце ўтварылася патрыятычнае таварыства філаматаў.

**1873.** Дантыст з Сан-Францыска Джон Бірс запатэнтаваў залатыя каронкі для зубоў.

**1879.** Уладальнік салуна ў Дэйтане, штат Агаё, Дэймс Рыці запатэнтаваў першы касавы апарат.

**1890.** У лонданскім раёне Сіці (дакладней, пад ім) пачалі хадзіць першыя электрацягнікі метро. Упершыню было скарыстанае і электрычнае асвятленне вагонаў.

**1921.** Карэйскія рэвалюцыянеры забілі прэм'ер-міністра Японіі Такашы Харакеі.

**1946.** Створана ЮНЕСКО.

**1956.** Савецкія войскі падавілі паўстанне ў Венгрыі, якая хацела выйсці з Варшаўскага блока і стаць нейтральнай дзяржавай, як суседняя Аўстрыя. Больш за 10 тыс. паўстанцаў былі забітыя, 200 тыс. пакінулі краіну.

**1957.** Савецкі Саюз запусціў у космас, з дапамогай балістычнай ракеты СС-6, першы штучны спадарожнік Зямлі. «Спутник-1» меў дыяметр 58 см., важыў 83,6 кг і функцыянаваў да 4 студзеня 1958 г.

**1950.** У спартовым комплексе ў Мехіка выступіў з творамі Бетховена, Чайкоўскага, Гендэля і Дворжака буйнейшы ў гісторыі музыкі сімфанічны аркестр, які налічваў 1.500 музыкантаў (звычайна іх у 10—20 разоў меней).

**1996.** Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь абвесціў, што вынікі рэферэндуму па прапанаваных прэзідэнтам зменах у Канстытуцыі не могуць мець абавязковай юрыдычнай сілы.

*5 лістапада*

**1904.** Нарадзілася беларуская і французская мастачка Надзя Хадасевіч-Лежэ, жонка майстра індустрыяльных пейзажаў Фернана Лежэ.

**1913.** У Індыі нарадзілася выбітная англійская актрыса Вів'ен Лі, жонка вялікага Лорэнса Аліўе. Двойчы была ўзнагароджана «Оскарам» за ролі Скарлет («Знесеныя ветрам») і Бланш («Трамвай «Жаданне»).

**1917.** Пасля амаль 200-гадовага перапынку ў рускай праваслаўнай царкве была аднаўленая пасада патрыярха, што сімвалізавала аддзяленне царквы ад дзяржавы (у эпоху імперыі РПЦ была чымсьці накшталт міністэрства, якім кіраваў прызначаны царом обер-пракурор). Патрыярх Ціхан (Васіль Белавін, 1865—1925) быў у 1923 г. абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці і прыцягнуты да судовай адказнасці. Дзеля выратавання царквы ад канчатковага знішчэння патрыярх у сваім духоўным тастаманце заклікаў духавенства і ўсіх вернікаў да супрацоўніцтва з савецкай уладай. Цяпер той пагрозы ўжо няма, але супрацоўніцтва працягваецца.

**1941.** У Кіеве была ўтвораная Украінская Нацыянальная Рада — палітычна-грамадскі цэнтр патрыятычных сілаў (яшчэ ў ліпені такі ж орган утварыўся ў Львове пад пратэктаратам мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага). У сакавіку 1942 г. нямецкія акупанты забаранілі дзейнасць Рады, што прымусіла патрыётаў сысці ў падполле і стварыць Украінскую Паўстанцкую Армію (УПА).

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1256 Нумар падпісаны ў друк 03/11/98 (15:00) Наклад — 18.170